№ 15. Ausgabe B.

# ГОМАН

Цэна с перэсылкай і дастаукай да хаты:

на 1 год—4 м. 80 фэн., на ½ году—2 м. 40 ф., на 3 месяцы—1 м. 20 ф., на 1 мес.—40 фэн.

Беларуская Віленская часопісь

выходзіць два разы у тыдзень: у аўторкі і пятніцы.

Адрэс рэдакцыі: Вільня, Завальная 7.
Адрэс адміністрацыі і экспэдыцыі: М. Стэфанская 23.

Цэна абвестак:

на 4-ай старане за радок дробнымі літэрамі — 25 фэніг.; дробные абвесткі — па 5 фэн за слова. Абвесткі аб сьмерці — 60 фэн. за лінейку дробн. друкам.

№ 15 (107). Год II. Вільня, 20 лютаго 1917 г. Цэна 5 фэн. (3 кап.).

## Ціш перад бурай.

### 19 лютаго.

**Заходні тэатр:**

На большай часьці фронту быў густы туман, каторы агранічываў работу лятуноў і артылерыі і дапускаў толькі патрульные опэрацыі.

Дзякуючы асьцерожнасьці нашых войск у акопах, чысьленые опэрацыі ворагоў не удаліся. Нашым разведчыкам удалося прывясьці некалькі палонных.

**Усходні тэатр:**

Нічога выдатнага.

*Македонскі фронт:* Сустрэчы пярэдніх варт і, мейсцамі, артылерыйскіе бітвы.

Два самалёты ворагоў збіты.

### Турэцкае апавешчэньне.

КОНСТАНТЫНОПОЛЬ. На поўдні ад Тігра ворагі 17 лютаго, пасьля падгатоўкі агнём, штурмавалі нашы пазыцыі пры Фэляйі. Ворагу ўдалося на момэнт уварвацца на нашу пазыцыю, але пасьля ён быў адтуль выкінут, і яго брыгада знішчэна зусім. Мы ўзялі 1 афіцэра, 60 салдатоў, кулемёт і некалькі аўтоматычных стрэльб.

Пры Дарданэльлях мы збілі англіцкі самалёт, каторы папаў у нашы рукі блізка зусім цэлы. Яго можна будзе направіць.

### Заява турэцкага вэзыра.

КОНСТАНТЫНОПОЛЬ. Новы вялікі вэзыр, Талаат-паша, гэтак сказаў у парлямэнці: „Нашы ворагі заявілі аб сваім жаданьні выкінуць нас с Константынополя і с суседзтва з марскімі пралівамі у Анатолію. На гэтые сьмешные грозьбы нашых ворагоў атказываем: мы не уступім Константынополя, пакуль будзе жыў хоць адзін осман. Мы прадоўжым гэту вялізарную вайну поруч з нашымі адважнымі саюзьнікамі датуль, пакуль нашы ворагі не прызнаюць нашаго права на жыцьцё“.

Парлямэнт выказаў новаму вялікаму вэзыру сваё давер'е ўсемі галасамі.

### Карміленьне Англіі коштам Расеі.

БЭРН. «Bund» даведаўся с Пецярбурга аб прэдлажэньні англіцкаго правіцельства вывясьці з Расеі 80 мільёноў пудоў пшаніцы.

«Русск. Ведом.» кажуць, што гэткі вываз паставіць самую Расею ў цяжкое палажэньне. Але праўда, што дзеля павышэньня валюты расейскаго рубля за граніцай вывазу пшаніцы можна жадаць.

### Францускіе напасьці на расейскі урад.

ШТОКГОЛЬМ. Францускі міністэр Думэрг у гутарцы з адным журналістам кінуў вельмі цяжкіе абвіненьня расейскаму правіцельству, каторае працівіцца клічу: „Усё дзеля вайны!“ Затое ён хваліць згодлівасць і саюзьніцкую вернасць расейскаго грамадзянства. У расейскіх правіцельственых кругах гэтые напасьці зрабілі вялікую прыкрасць.

### Неспакойство у Расеі.

ШТОКГОЛЬМ. «Русск. Сл.» кажэ, што ў тарговых і банкоўскіх кругах Расеі вельмі непакояцца с прычыны нямецкай падводнай вайны. Факт, што праз яе прывоз і вываз вельмі агранічыліся, мае для Расеі дужа сумные пасьледзтвы, бо яна прывазіла сабе морэм надта многа тавароў. З гэтай прычыны газэта прэдлагае, каб Англія і Францыя ужылі-бы процi падводных лодак усіх способоў, якіе толькі могуць суліць удачу.

### Перад зменай „курсу“.

МАСКВА. «Русск. Сл.» даносіць, што імператар прыняў Штырмэра і Протопопова на агульнай аўдыэнцыі. Гэта вызывае тым вялікшае ўражэньне, што перад тым цар прыняў быў Трэпова.

Як даносяць, цар прыняў Штырмэра і Трэпова надта міласьціва.

Протопопов радзіць, каб Штырмэру і Трэпову далі-бы кіраўнічые мейсцы, ды каб яны гэтак узмацавалі сілу правых партій дзеля змаганьня проці Думы і каб разбіць паступовы блок.

Як пішуць «Бірж. Вед.», Протопопов спадзяецца, што пры новых выбарах паступовы блок утраціць прынамсі 30 дэпутацкіх мейсц. Апрыч таго ён спадзяецца паддзержкі работнікоў, нездаволеных работай Дзержаўнай Думы.

### Пасыўная таргоуля Англіі.

ЛОНДОН. „Times“ пішэ, што у студню ў Англію прывезьлі тавароў на 90.565311 фунтоў стэрл., а вывезьлі толькі на 46.860.542 ф. стэрл.

### Ціш перад бурай.

Нямецкіе апавешчэньня за апошніе тыдні даносяць адно толькі аб патрульных опэрацыях і наступленьнях разведчыкоў. Апавешчэньня пішуць: тут узято 17 палонных, там — 6, у іншым мейсцы — 32. Большая часць чытачоў, прачытаўшы гэта, пэўне нездаволеные аткідаюць газэту, кажучы: „вось, знайшлі аб чым пісаць: 17 палонных!“ Але нездавольство іх тлумачыцца поўнай незнаёмасьцю іх са значэньнем гэтых патрульных опэрацый. Папраўдзі, яны маюць надта вялікае значэньне, і ад умеласьці правадзіць іх і паводлуг іх рэзультатоў зрабіць правільны вывад залежыць ход ня толькі найбліжэйшых опэрацый, але мо' і ўсяе сусьветнай вайны. Бо вядома ўсім, дый тым болей не становіць гэта сэкрэту для генэральных штабоў ваюючых старон, што мы стаімо перад пачаткам незвычайна важных прыпадкоў, мо' найважнейшых за ўвесь час вайны. Абедзьве ваюючые стороны прыгатаўляюцца да таго, каб зрабіць сваім ворагам нішчучый удар. Пры цяперашніх аграмадных фронтах ад Балтыцкаго да Чорнаго мора і ад каналу Ляманш да Альп гэтые фронты, само сабо, ня могуць быць усюды роўна сільные. Кожная старана, манючыся пачаць наступленьне на якім-колечы пункце фронту, спягівае на гэты пункт памалу і неўзнак вялікшые сілы— як салдатоў, так і снарады, каб мець перэвагу над ворагамі. І вось цяпер, калі трэба спадзевацца гэтых наступленьнёў кожын момэнт, вельмі важна перэканацца, на якіх адрэзках ворагі узмацавалі свае сілы. Дзеля гэтаго кожная старана на ўсіх сваіх фронтах робіць разведкі, аб якіх нам даносяць ваенные апавешчэньня, паведамляючы аб узяцьці ў палон гэтулькі-то палонных. З нумероў палкоў, да якіх належаць узятые палонные, генэральны штаб даведываецца, якіе палкі прыйшлі на той адрэзак, ці адыйшліся адтуль на іншы пункт. Калі-б аднэй старане ўдалося сабраць дзе-колечы значные сілы, а ворагі аб гэтым ня ведалі-бы і не здалелі-бы прыгатавацца да адпору, дык іх ждже немінучы разгром. Гэткая катастрофа спаткала два гады таму назад расейскую 10 армію пад камандай Сівэрса, проці каторай Гіндэнбургу ўдалося цішком сабраць перэважываючые сілы. Пагібель 10 арміі была рэзультатам не здрады жандарскаго палкоўніка Мясаедова, а уменьня нямецкаго глаўнакамандуючаго так падвязьці патрэбные сілы, што аб гэтым расейская каманда зусім ня ведала.

Можна напэўна сказаць, што саюзьнікі прыгатаўляюць вялізарнае наступленьне з незвычайна чысьленымі сіламі. Невядома толькі адно: на якім адрэзку? Атказ на гэтае пытаньне і могуць даць толькі рэзультаты штодзенных патрульных разведак, аб якіх мы чытаем у ваенных данясеньнях і якіе несьведомые людзі лічаць зусім неважнымі.

Чытаючы расейскіе апавешчэньня, мы там гэткіх вестак не бачым, або спатыкаемся з імі вельмі рэдка. З гэтаго можна зрабіць бадай зусім пэўны вывад, што пастаноўка разведкі ў расейцоў, быўшая заўсёды слабой, астаецца гэткай-жэ самай і цяпер, ды што расейскі генэральны штаб за 31 месяц крываваго змаганьня нічога не навучыўся і забыўся аб усіх горкіх навуках сусьветнай вайны.

## Трайны пратэст.

Справа далейшай будучыны Галічыны, каторай—сьледам за апавешчэньнем незалежнасьці Польшчы—была дадзена абецанка пашырыць яе аўтономные правы, пайшла дзіўнай на першы пагляд дарогай: проці гэтаго ўсемі сіламі выступае добрая палавіна жыхароў Галічыны—ўвесь тамтэйшы украінскі народ. У „Гомане“ ўжо выясьнялася прычына гэтаго: пры пашырэньні правоў Галічыны і незалежнасьці яе ад агульна аўстрыяцкаго парлямэнту ў гэтай старонцы ўласць пападзе ў рукі палякоў, а украінцы бачуць у польскім панаваньні найвялікшую грозьбу для сябе. І затым-то украінскае грамадзянство і ўсе украінскіе палітыкі працуюць цяпер, не пакладаючы рук, дзеля таго, каб дадзеная палякам абецанка не магла быць споўнена ў такой формі, як хочуць палякі.

Запраўды, небаспечнасць украінцам грозіць вялікая. Мы на сабе спазналі, што польская палітыка робіць з народамі, над якімі палякам так ці іначэй удалося запанаваць: іх інтэлігенцыя і вышэйшые станы апалячываюцца, а „просты“ народ абертаецца ў нявольнікоў-прыганятых, у душы каторых забіваецца сьведомасць чэлавечых правоў, сьведомасць іх нацыональнасьці і права на самабытнае жыцьцё. І украінцы, разумеючы гэта, згуртавалі цяпер усе свае чынные грамадзкіе сілы каля аднэй ідэі: не даць паняволіць сябе палякам!

У пачатку лютаго месяца у Львові адбыўся з'езд членоў пашырэнаго украінскаго народнаго камітэту і давераных людзей украінскай народнай партіі. З'езд гэ-

